№ 3. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с пэрэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі:
М Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 3 (95). Год II. Вільня, 9 студня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# Фокшаны здабыты.

## 8 студня.

**Заходні тэатр:**

На фронці Ізэры, ў завароці Іпра і на поўначы ад Сомми узніmаліся ад часу да часу вострые артылерыйскіе бітвы.

У бітвах на паветры і пад агнём нашых зашчитных гармат ворагі утрацілі 6 самалётоў.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: На заходзі ад дарогі Рыга-Мітава расейцы ўчора ізноў атакавалі вялікімі сіламі на шырокім фронці. На рацэ Аа ім удалося пашырыць здабыты 5 студня абшар. У-ва ўсіх іншых мейсцох яны крывава адбіты.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* Ня гледзячы на сьнежные мяцелі і крэпкі мароз, мы ізноў адціснулі ворагоў між далінамі Путна і Ойтоса.

*Фронт Макензэна*: Дзень 7 студня даў 9-ай арміі, асабліва-ж пабедным нямецкім і аўстрыяцкім войскам генэралоў Краффт ф. Дэльмэнсінгэн і ф. Моргэн, новую вялікую удачу. Яны адкінулі румыноў і расейцоў ад крэпка ўмацаванаго горнаго хрыбта Одобэсті да Путна. Далей на палудні здабыта штурмам збудаваная ужо ў кастрычніку і цяпер упорна бараніўшаяся пазыцiя Мількову.

У энэргічнай пагоні ворагам не было дадзено часу задзержацца на сваей другой лініі пры канале між Фокшанамі і Ярэстэа. І гэта пазыцiя была зломлена. У далейшай пагоні мы перайшлі за дарогу Фокшаны—Болотэсті.

Сягоньня раніцай узяты Фокшаны. На ўзятых пазыцiях знойдзены 3910 палонных, 3 гарматы і некольки кулемётоў.

*Македонскі фронт*: Між вазёрамі Охрыда і Прэспа было дарэмнае наступленьне сільнаго атрада ворагоў.

## Нарада саюзьнікоў.

БЭРН. 7.I (В.Т.Б.—Стэфані). Сягоньня перад абедам а 12 гадз. адбылося трэйцяе поўнае заседаньне нарады саюзьнікоў. Перад заседаньнем радзіліся паасобку прэдстаўнікі палітычнай і ваеннай камісіі. Поўофіцыоз «Giornale d'Italia» пішэ, што прыняты вельмі сур'ёзные рэзолюцыі.

РЫМ 7.I (Стэфані). Нарада саюзьнікоў закончэна. Саюзьнікі пацьвярдзілі ешчэ раз супольнасць паглядоў на розные пытаньня і пастанавілі ўсё болей праводзіць у жыцьцё еднасць сваіх выступленьнёў.

## Банкруцтво сэрбскіх надзей.

СОФІЯ. На фронці Манастыра дух сэрбскіх войск вельмі упаў с прычыны таго, што абецанка саюзьнікоў зрабіць Манастыр сталіцай Сарбіі дагэтуль ня споўнена. Генэрал Сэрайль узяў сэрбоў с фронту і замяніў іх італьянцамі. У ваколіцах Манастыра сэрбоў больш німа зусім.

## Аустрыяцкі міністэр у Бэрліне.

БЭРЛІН. С прычыны прыезду ў Бэрлін аўстрыяцкаго міністра заграничных спраў гр. Чэрніна прыдворная газэта «Berl. Lok.-Anz.» пішэ, што пастановы аб агульным палітычным палажэньні нельга было прыняць хоць бы затым, што ўсё ешчэ німа атказу саюзьнікоў на мірнае прэдлажэньне прэзыдэнта Вільсона. Можна думаць, што ў гутарках між імі многа мейсца занімалі агульные палітычные пытаньня.

## Голас суседзёў.

Пад той час, як вядомые „палітыкі" ў нашым Краю за найвышэйшую палітычную мудрасць лічаць нішчэньне ўсяго беларускаго і маячаць „аннэксіей" Беларусі і Літвы да неістнуючаго ешчэ Польскаго каралеўства, — палякі ў Польшчы пільна прыслухаюцца да таго, што робяць і чаго жадаюць іх суседзі з-за мяжы — беларусы і літвіны. Сьвежым прыкладам гэтаго служыць дайшоўшая да нас кніжэчка, выпушчэная у двох выданьнях: Ваеннаго Дэпартамэнту Глаўнаго Нацыональнаго Камітэту і Славянскай Бібліотэкі. Гэта: *D-r Tad St. Grabowski. „Białoruś pod rządami Rosji"*, або, пад другім загалоўкам: *„Rosyjskie rządy na Białorusi"*.

Д-р Грабовскі прачытаў у маі 1916 г. ў Петракові дзьве лекціі на тэму: Расея, як „пекунка" славян, і на аднэй з іх гаварыў аб беларусах і змаганьні нашаго народу за сваё адраджэньне. У паменёнай кніжцэ і перэдрукована гэта лекція. Тут апісываецца ўся гісторыя беларускаго нацыональнаго руху, апісываецца той страшэнны уціск, які царпеў наш народ пад расейскім панаваньнем, апісываюцца нават віны тутэйшых палякоў, каторые так пільна стараліся навязаць беларусам польскую мову і — у асобі кс. Мацеевіча — прызывалі на помач у гэтай справе.... Гасударственую Думу! І на моцы багатаго фактычнаго матэр'ялу, на моцы пазнаньня беларускай новай літэратуры, прэссы і іншых праяў нацыональнаго жыцьця, аўтор дае цікавую характэрыстику беларускаго руху, стаўляе яму гороскопы на будучыну.

„Рух гэты — кажэ аўтор на 30 стр. — *мае віды на будучыну* затым, што ад самаго пачатку свайго ён *апіраецца на шырокіх масах сельскаго народу...* Яго адзначывае вялікае *выразуменьне, толеранцыйнасць* у адношэньні да ўсялякіх кірункоў і дамаганьнёў іншых, суседніх народоў,...ён адзначываецца незвычайна дасьпелым спакоем і роўнавагай, мяркоўнасьцю і справедлівасьцю пры ўсялякіх сустрэчах с супраціўнікамі с таго ці гэтаго боку... „Рух гэты" — паводлуг знаменітай ацэнкі яго Адольфам Чэрным, найбольш сумленным чэскім славянофілам, катораго дагэтуль ня можэ перэтравіць офіцыальная Расея, — «гэта рух наскрозь рэальны, сьвядомы сваей мэты, сьвядома дэмократычны і паступовы, выплываючый с пераконаньня, што народ беларускі прачхнецца і заявіць аб сваіх нацыональных правох толькі тады, калі паднімецца да вышыні ўразуменьня сваіх чэлавечых правоў, калі пасьвятлее, узмацуецца экономічна, — адным словам, гэта рух XX сталецьця, рух эпохі, каторая даўно ўжо пакінула за сабой романтызм, ды перажыла ўжо і позытывізм і соцыалізм".

Сваю лекцію-брошуру аўтор заканчывае аддзелам, каторы мае загаловак: „Жыў беларус і будзе жыць!" Адзначыўшы ешчэ раз тые этапы, якіе ўжо прайшлі беларусы, кірyючыся да свайго адраджэньня, адзначыўшы цэннасьці беларускаго руху, аўтор кажэ:

„Сьмяротным дыханьнем дзьме сівер с Поўначы на бедны люд беларускі і—ня можэ гвалтам замарозіць яго. Народ бароніцца верай і шчытом надзеі і крывавай, цяжкай працай і сэрдэчнай песьні жальбой. З верай, з нязломнай надзеяй паўстаець колькімільённая беларуская грамада насупроць таго сівера—бытцым чорны бор— і насьмехаецца над Поўначчу..."

Кніжка ўся адзначываецца сымпатіей да беларускаго народу, — але не за яе належыцца аўтору падзяка. Мы дзякуем яму за тое, што, ня гледзячы на баламуцтвы тых наших ворагоў—асабліва беларускіх рэнэгатоў, што брахнёй нягоднай паганяць імя нашаго народу у суседзёў, ён услухаўся ў тое, што гаворaць самі беларусы, услухаўся ў біцьцё беларускаго сэрца і, дачуўшися яго, сказаў тое, што пачуў, — сказаў праўду.

*І. Мелешка.*

## Чародная задача.

У першые гады, калі ўсё шырэй і шырэй пачала будзіцца у беларусоў нацыональная сьведомасць, беларускі рух выяўляўся найбольш у пропагандзі ідэі нацыональнаго адраджэньня нашаго народу. Гэту ідэю праводзілі і беларускіе часопісі, і ўся друкаваная літэратура, і рознародные тайные і яўные організацыі, кружкі і т. п., беларускі тэатр, сьпевацкіе і драматычные дружыны і іншые. Але ўжо незадоўга да пачатку вайны ў гэтым руху намечаецца значны паварот. Беларуская газэта, кніжка, верш, аповесць, тэатральнае прэдстаўленьне, песьня і т. п.—усё гэта становіцца не яркай праявай работы нейкай групы дабрахочных людзей, а запраўднай, зусім натуральнай духовай патрэбай нацыонально-сьведомаго нашаго грамадзянства, якое пачало ўжо жыць сваім асобным ад іншых нацыональнасьцей жыцьцём. Поруч з гэтым беларусы робяць першые

ЛОНДОН. Міністэр Гэндэрсон сказаў карэспандэнту «New-Jork Tribune»: „Нямецкі мілітарызм трэба гэтак аслабіць, каб ён перэстаў быць небасьпечным. Пакуль нямецкае настраеньне ня зьменіцца ад самых асноў, мы павінны забасьпечыцца ад жаданьнёў Нямеччыны запанаваць над усім сьветам“.

ЛОНДОН. Член Ніжняй Палаты, Тэррэль, піша ў «Daily Express»: „Калі-б Нямеччына нават ачысьціла Бэльгію, Сэрбію, Эльзас-Лотарынгію і Расею і дала бы Расеі заняць Канстантынопаль, дык саюзьнікі і тады мелі-бы права ваеваць далей, каб нямецкаго Імпэратара і нямецкаго Насьледніка зачыніць на ўсё жыцьцё на востраві сьв. Алены“.

### Набор расейскіх жыдоў.

ЛОНДОН. Тут усё прыгатована дзеля набору расейскіх жыдоў у армію. Прынімаюцца расейскіе падданые, каторые пражылі у Англіі прынамсі 5 гадоў. Проці прызыва німа ніякай апэляціі.

### Крызіс у Грэціі.

ЛОНДОН. Рэўтэр даносіць з Афін:

Грэцкі урад с прычыны адмовы прыняць ультіматум саюзьнікоў апавесьціў, што ён не аб'яўляе ім вайны, а паддасца іхным гвалтам, спадзяючыся, што саюзьнікі ўрэшці пэрэканаюцца, што блокада — гэта зусім незаслужэная кара за здарэньня 1 сьнежня, выванные тым, што армія проці жаданьня ураду пастанавіла супраціўіцца выдачы ваенных матэр'ялоў. Аб рэпрэсіях проці староннікоў Вэнізэлоса апавешчаецца, што констытуція забараняе каралю мешацца ў судовые справы, пакуль не аб'яўлен прыгавор.

Блокада дае сябе ўсё болей знаць. Спажыўные прадукты вельмі падаражэлі і для беднейшых класоў зусім недаступны.

Меньне староннікоў Вэнізэлоса сконфіскована. Арэшты іх адбываюцца далей.

ЛОНДОН. «Morning Post» даносіць з Афін, што правіцельство, як відаць, маніцца зрабіць шалёны крок. Запасным загадано быць гатовымі ў патрэбе явіцца ў свае палкі.

У Афінах адбываюцца вялікіе дэмонстраціі проці саюзьнікоў. Дэмонстранты ходзяць па вуліцах с крыкамі: „Ніхай жывець вайна“!

Начальнік другога грэцкаго корпуса, генэрал Мэтопулос, за сваю прыхільнасць да саюзьнікоў атрымаў адстаўку. Яго замянілі прыхільнікам Нямеччыны.

Местовае упраўленьне Афін пастанавіло выключыць Вэнізэлоса с чысла грамадзян.

### Папеж і Англія.

РЫМ. «Secolo» даносіць, што ў Ватыкане вельмі нездаволены с прычыны таго, што Ллойд Джордж, прыехаўшы на нараду саюзьніцкіх міністроў у Рыме, не адведаў Папежа. Англіцкі пасол навет не папярэдзіў Папежа аб прыезьдзі англіцкага прэм'ер-міністра.

### Адбудова Польшчы.

ВАРШАВА. «Deutsche Warsch. Ztg.» піша, што тымчасовая дзяржаўная рада Польшчы, паводлуг пэўных ведамасьцей, зьбярэцца гэтымі днямі.

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

**З Вільні і Віленскай губэрні.**

### Табор для ваенна-палонных Tuchel.

Кулеша Броніслаў, Вашлевічы.
Мэдэкша Франц, Фокварктаншэс.
Радзевіч Вінцэнт, Аскаляданцы.
Амельяноў Іван, Вільня.
Мелеўскі Язэп, „
Пронткелевіч Александар, Гудзішкі.
Валачкоў Ігнат, Бівосношэ.
Дэшук Міхаіл, Янковічы.
Янкелевіч Болеслаў, Добрые Навіны.
Пілецкі Пётр, Лоша.
Бокшаніи Вінцэнты, Касоўшчына.
Бэйго Язэп, Стр. Сьвятодуска.
Шарэйко Адам, Вільня.
Валешыновец Ян, Нова-Вілейка.
Сасэрів Язэп, Вільня.
Лятрінскі Александар, „
Ніховец Эуетахій, Войтовічы.
Стангевіч Станіслаў, Вільня.
Хрэбтовіч Іван, Двор Лугунье.
Носаль Іван, Войганцы.
Станіславовіч Васіль, Боркоўцы.
Якімовіч Станіслаў, Рэяр'я.
Серко Адольф, Мацечы.
Казлоўскі Іван, Полечаны.
Шаблінскі Язэп, Фэленсго.
Гедровіч Юрый, Ліда.
Шульпа Броніслаў, Рыбакі.
Печкоўскі Луціян, Вільня.
Рай Станіслаў, Гардзіново.
Пульша Станіслаў, Скілондзішкі.
Малофей Іван, Мічаны.
Сенкевіч Стэфан, Воласьці Сленскай.
Шульцкі Пётр; Мэйшагола.
Пэрвэйніс Язэп, Вільня.
Ковіцкі Пётр, Коняўскае
Юшчынскі Сымон, Вільня.
Урбановіч Віктор, Доброво і.
Тінкша Міхаіл, Рожаны.
Вутэйка Антон, Тушкоўцы.
Новосельскі Стэфан, Вільня.
Ясюлевіч Юльян, Сіняўшчына.
Шостак Антон, Цёзакоўшчына.
Паплоўскі Язэп, Замосчоў.
Садогу Владыслаў, Коцкі.
Бічэль Іван, Дтугом (?).
Метукевіч Брунэк, Йігі.
Стэцкі Адольф, Вільня.
Бубковіч Мікалай, Сусна (?).
Бобровіч Язэп, Фрэцкево.
Мількор Антон, Вільня.
Казлоўскі Фэлікс, Стажынкі.
Гірув Клемэнс, Вільня.
Тотопіто Антон, „
Родина Іван, Цябуты.
Шапачка Констанцін, Дзюроў.
Матуз Казімір, Батулька.
Соколоў Лявон, Орша.
Шышко Ворэон (?), Друцк.
Янкевіч Боріслаў, Вільня.
Залескі Станіслаў, Крывічы.
Поплоўскі Станіслаў, Доброполе.
Васілеўскі Вацлаў, Трокі.
Стандзевіч Язэп, Болашаны.
Купріс Александар, Тотінамі.

### Табор для ваенна-палонных Chemnitz.

**5 Кампанія.**

Любянец Антон, Вільня.
Шандроцкі Юльян „
Зарыхта Язэп „
Шымуліс Эдвард „
Скавінскі Віктор „
Горбоўскі Владзімір „
Сальмановіч Франц „
Цюнэль Нікадэм „
Тышкевіч Антон „
Шумкун Вінцэнты „
Жыгас Іван „
Румшэль Станіслаў „
Новодворскі Іван „
Масальскі Вінцэнты „
Мацулевіч Міхаіл „
Юрша Міхаіл „
Гальгоўскі Іван „
Сабалеўскі Геронім „
Добраловіч Міхаіл „
Арцеменко Міхаіл „
Сенко Мікалай „
Розэнштэйн Ізраэль „
Крэндзей Іван „

### Табор для ваенна-палонных Hammerstein.

Бородзіч Вінцэнты, Петрулі.
Басюк Іван, Гуры.
Дзерван Іван, Лейстуны.
Грушэўскі Эдвард, Дзесьціміы
Красьнік Стэфан, Ест.
Кардоўскі Якаў,
Курмэль Болеслаў, Сокољовічы.
Лесковіч Людвік, Сабачы.

(Далей будзе).



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар В. Ластоўскі.